Ў нумары: Дзе тваё месца, малады чалавек? Дамбраўшчакі Школа ў пушчы

ХВЕДАР ЧЭРНЯ

* * *

Ноччу прыходзяць зоры, далёкія, блізкія.
Збяруцца ў акне і рассядуцца на вазонах.
Я знаю: яны мне прарочаць ранне чыстае,
І я засынаю: я веру знаёмым зорам.

Позна прыходзіць стома, як частачка доказу,
Што да мінулага дня не быў раўнадушны,
Ноччу прыходзіць лёгкасць, з якой прачнуўся на досвітку
І развяду санлівасць рукамі дужымі.

Ноччу прыходзяць сны, прапахлыя вераснем,
Страшныя, радасныя, раннія й позныя.
І ноччу прыходзіць прага, вякамі праверана, —
Чалавечая прага жыцця і подзвігаў.

# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 49 (406) | ГОД VIII | 8 СНЕЖНЯ 1963 г. | ЦАНА 60 ГР

РЭЗЕРВЫ, ЛІЧАНЫЯ КОРМНІКАМІ

## РЭЦЭПТ НА ЦЯЖКАСЦІ

**Гутарка з праф. Абгаровічам, загадчыкам кафедры кармлення жывёлы Галоўнай школы вясковай гаспадаркі.**

Кармленне жывёлы — справа простая. Але рацыянальнае кармленне, г. зн. такое, якое дазваляе атрымаць максімальны эфект пры невялікіх выдатках — гэта ўжо трэба ўмець. Без усебаковых ведаў у галіне фізіялогіі і біяхіміі немагчыма было б рацыянальнае кармленне жывёлы. Нават вопытны гаспадар адчувае патрэбу ў дапамозе спецыялістаў.

На адну галаву жывёлы ў нас у сярэднім скормліваецца ў год ад 1650 да 1760 кілаграмаў бульбы. А ў ФРГ — толькі 875 кг, у Даніі — 130 кг, у Бельгіі — усяго 90 кг. Бо бедная бялком бульба не складае там падставовага корму. Рацыянальнае кармленне патрабуе падачы жывёле адпаведнай колькасці бялкоў у іншых кармах.

### НАВУКА І КАРМЛЕННЕ ЖЫВЁЛЫ

Беручы схематычна, арганізм жывёлы — гэта фабрыка малака або мяса. Даем адпаведную колькасць кармавых адзінак, аблічаную порцыю бялкоў і атрымліваем акрэсленую прадукцыю. Напрыклад, на адзін кілаграм ялавічыны ў нашых умовах трэба 8 кармавых адзінак, на адзін кілаграм свініны — 7,5 адзінак. У Даніі, Галандыі, ФРГ, на атрыманне 1 кілаграма свініны селянін скормлівае каля 4,5 да 5 кармавых адзінак. Там склад кармоў і прапорцыі паміж імі больш рацыянальныя і лепш дастасаваныя да сапраўдных патрэб арганізму жывёлы. Як бачым, не колькасць кармоў і іх кошт вырашаюць аб выніках.

Навуковыя метады кармлення ў масавым маштабе могуць прымяняцца пры прадукцыі мяса, малака і яек. Цяжка, вядома, спадзявацца, каб вучоныя дайшлі да кожнай гаспадаркі і параілі, што і ў якіх прапорцыях скармліваць. Можна толькі выкарыстаць агульныя парады заатэхнікаў. Канкрэтную магчымасць прымянення дасягненняў навукі ў кожнай гаспадарцы дае выраб прамысловых кармоў, які цяпер хутка развіваецца, як на ўсім свеце, так і ў нас.

Танныя кармы, празначаныя для розных відаў жывёлы, падрыхтоўваюцца на заводах паводле строгіх рэцэптур, вызначаных вучонымі. Гэта дазваляе ў штодзённай практыцы прымяняць для жывёлы рацыянальную дыету, якая абапіраецца на дасягненнях фізіялогіі і біяхіміі.

Мяшанкі прамысловых кармоў, складзеныя з некалькіх дзесяткаў састаўных частак, маюць у сабе ўсе элементы, неабходныя для арганізма жывёлы. Дзякуючы высокаму працэнту бялкоў, мяшанкі гэтыя даюць на 30—60% лепшыя вынікі, чым збожжа.

### НАЙЛЕПШЫ ДОКАЗ — ВЫНІКІ

Такое незвычайна хуткае развіццё кармавой прамысловасці таксама і ў нас дыктуе становішча ў жывёлагадоўлі. Толькі такім шляхам можна перамагчы цяжкасці, якія прыносяць гаспадарцы неўраджайныя гады. Хочам, каб прамысловыя кармы паступова рабіліся падставай у кармленні жывёлы.

Ужо ў бягучым гаспадарчым годзе кожны трэці кормнік можа быць выкармлены прамысловымі кармамі. А за два гады выраб мяшанак павялічыцца яшчэ на 50%. Рацыянальнае выкарыстанне іх павінна даць вялізную эканомію. Напрыклад, пры прадукцыі бекона прымяненне прамысловых мяшанак абніжае кошт адкорму на 20—30%, адначасова павышаючы якасць бекона.



Пасля ўрокаў у школе наступае цішыня. Для настаўніка аднак не азначае яна адпачынку. Мае ён заўсёды гарбу розных спраў.

НА ЗДЫМКУ. Настаўніца пачатковай школы ў Войшках Ірына Буслоўская ў час парадкавання школьнай бібліятэкі.

фота Паўлючук

## ДЗЕ ТВАЁ МЕСЦА, МАЛАДЫ ЧАЛАВЕК?

Чаму моладзь на вёсцы п'е? Пытанне вельмі шырокае. Каб сягнуць да першапрычын з'явы, мы прапануем маленькую дыскусію.

**Мгр ВЕНАНЦЫУШ ПАНЭК** — псіхолаг, старшыня Ваяводскага супрацьалкагольнага грамадскага камітэта.

— Традыцыя, прыклад старэйшых. Як не піць, калі ўсе і ўсюды п'юць! Вёска не мае арганізаванага таварыскага жыцця. Няма дастатковых сродкаў, якія б рабілі тут жыццё цікавейшым. Але ёсць гасподы, многа гаспод на вёсцы. Яны — рассаднік зла. Яны зроблены для п'янства. Калі б так гасподы замяніць на клубы, святліцы, якіх бракуе! І ўсведамленне бацькоў. Каб п'ючы, памяталі пра дзяцей, якія ёсць і якія будуць. На ЗМВ лічу як на фактар адновы.

**СТАНІСЛАЎ КРУШНЕЎСКІ** — намеснік старшыні Ваяводскага Праўлення ЗМВ.

— Разбітасць: старыя катэгорыі адыйшлі, а новыя яшчэ не здабыты. Моладзь у дэзінфармацыі — неахвотна прылучаецца да гаспадарчых спраў. Лепш да культурна-карысных. Напр., будаваць святліцу — так, але прыгатаваць сіласы — не.

Сацыялагічныя даследванні паказваюць, што вясковай моладзі вельмі падабаецца мадэль гарадскога жыцця. Мы ў сваёй дзейнасці стараемся адыходзіць ад традыцыйных форм культурнай працы. Святліцу разумеем як установу комплексную, выспецыялізаваную, дзе б была і бібліятэка, і чытальня, і кавярня. ЗМВ супольна са спулдзельчасцю арганізуе клубы-кавярні. Маем іх 34. Мала. Наш новы саюзнік — гэта прадпрыемства «Рух», разам з якім мы пачалі арганізацыю клубаў друку і кнігі.

Саюз аматарскіх тэатраў пры ЗМВ распачаў сур'ёзную працу па прапагандзе тэатральнага мастацтва. Выезды тэатра на вёскі, экскурсіі ў горад, дыскусіі над п'есамі. Цяпер рыхтуем вялікую чытальніцкую алімпіяду з рэпертуарам, прысвечаным 20-годдзю. У ёй прыме ўдзел кожны наш гурток.

Для старэйшай моладзі, жанатай, арганізуем клубы маладых гаспадароў, накіраваныя на гаспадарчую дзейнасць і яе вынікі.

Усё гэта для таго, каб малады чалавек на вёсцы знайшоў сваё месца сярод людзей, каб мог выбраць куды пайсці, як правесці час, каб не заставалася яму толькі гарэлка і гаспода. Каб з алоўкам у руках мог пераканацца, што гарэлку піць яму не аплачваецца. Добра было б паставіць справу выразна: раз ты член партыі, член арганізацыі, дзяржаўны працаўнік — нельга табе піць.

Гасподы. Як найменш іх на вёсцы. Знаходзіцца ў публічным месцы нецвярозым забаронена, а ў нас публічна п'ецца. А вядома, чым менш аказій, тым менш п'янства.

**Маёр БЕРНАРД НАРЭНГОЎСКІ** — намеснік ваяводскага каменданта МО.

— Установы і арганізацыі, адказныя за выхаванне вясковай моладзі, не ўваходзяць у праблематыку і ментальнасць

(Працяг на стар. 4)



У РЫБАЛАХ

фота М. Хмялеўскі

## Новы гаспадар Белага Дома

Час, які мінуў ад забойства Джона Кенедзі, не прынёс вырашэння загадак, звязаных з гэтым злачынствам. Ён высніў  толькі адно, што за плячыма забойцы стаяла крайняя рэакцыя. Яна мабілізуе сёння ўсе сілы для генеральнай атакі на адміністрацыю, кіраваную Кенедзі.

Ці Ліндан Джонсан патрапіць даць адпор гэтай атацы і ці ў сапраўднасці, згодна з яго заявай у кангрэсе, будзе прадаўжаць рэалістычную палітыку забітага прэзідэнта? Адказ на гэтае пытанне дасць час і толькі часткова можа ў гэтым дапамагчы знаёмасць дагэтуляшняй дзейнасці Джонсана.

Не малое значэнне мае факт, што сучасны прэзідэнт ЗША нарадзіўся менавіта ў Тэхасе, гэта значыць, у тым самым штаце, дзе быў забіты Кенедзі і дзе за дэмакратаў аддавалася заўсёды найменш галасоў. Нягледзячы на гэта, Джонсан — дэмакрат на працягу 23 год — быў прадстаўніком гэтага рэакцыйнага штата ў Палаце Прадстаўнікоў і Сенаце. Гэтая загадковая падтрымка Джонсана Тэхасам магчыма выцякала з таго, што Джонсан моцна звязаны з вялікімі нафтавымі канцэрнамі, багацці якіх знаходзяцца на поўдні. На працягу сваёй 30-гадовай палітычнай кар'еры Джонсан ні разу не выступіў супроць інтарэсаў нафтавага капітала. Менавіта, беручы пад увагу падтрымку Джонсана Тэхасам, Дэмакратычная партыя высунула яго на пасаду намесніка прэзідэнта ЗША у выбарах 1960 года, ведаючы, што Кенедзі на поўдні зусім не карыстаецца папулярнасцю. Тактыка дэмакратаў аказалася тады правільнай. Джонсан зменшыў размеры правалу гэтай партыі ў выбарах у такіх штатах, як Тэхас ці Каліфорнія, чым садзейнічаў агульнай перамозе дэмакратаў.

У час, калі прэзідэнтам ЗША быў Рузвельт, Джонсан быў ужо вядомым палітыкам і лічыўся прыхільнікам прагрэсіўнай сацыяльнай палітыкі і дзякуючы гэтаму меў падтрымку з боку Рузвельта. У апошнія гады перад заняццем пасады намесніка прэзідэнта як правадыр дэмакратычнай большасці ў Сенаце некалькі разоў выступаў з праектам пастановы аб роўных правах неграў да працы і ў выбарах. Менавіта гэта было прычынай вострай крытыкі яго з боку тэхаскіх суродзічаў.

Ад палітычнага правалу выратавалі аднак Джонсана здольнасць лавіравання, ну і падтрымка нафтавага бізнеса.

Калі ўжо мова аб здольнасці лавіроўкі, дарэчы тут будзе прыпомніць уласныя словы Джонсана, якія ён выказаў некалькі год таму назад: «З'яўляюся лібералам і кансерватыстам, грамадзянінам Тэхаса, падатнікам, бізнесменам, спажыўцом і выбаршчыкам... Усе гэтыя прыкметы злучаю без ніякай акрэсленай чарговасці».

Калі гэта мела быць вызнаннем веры Джонсана, дык трэба сказаць, што гэта нічога не выясняе. Дадайма тады некалькі іншых падрабязнасцей і больш празрыстых апіній.

У Вашынгтоне Джонсан лічыцца вялікім спецам у галіне ўнутранай палітыкі з пасрэдніцкімі, угодніцкімі палітычнымі тэндэнцыямі. Мае аднак вялікі дар пераконвання праціўнікаў. У замежнай палітыцы не меў дагэтуль вопыту, бо заставаўся ў цені Кенедзі і яго трэста мазгоў. Намеснік правадыра Брытанскай лейбарысцкай партыі Броўн гаворыць аднак, што Джонсан з'яўляецца выдатным палітыкам і што ў большасці выпадкаў згаджаўся-са становішчам Кенедзі.

Каб паказаць свае сапраўдныя арыентацыі і палітычны вопыт, Джонсану засталося мала часу. За 10 месяцаў у ЗША адбудуцца выбары новага прэзідэнта, да якіх Джонсан вымушаны будзе прыступіць з акрэсленымі палітычнымі дасягненнямі, калі захоча змагацца за месца ў Белым Доме. Хацелася б, каб гэтыя дасягненні адказвалі сучаснай рэчаіснасці, каб Джонсан сапраўды рэалізаваў тыя пункты праграмы Кенедзі, якія ўлічвалі неабходнасць мірнага суіснавання і развязку супярэчнасцей шляхам перагавораў. Гэтага несумненна жадае большасць амерыканцаў. У такіх умовах ідэі Кенедзі маглі б стаць не кароткім эпізодам, а трывалым перыядам у гісторыі ЗША. Надзеі на ажыццяўленне гэтых жаданняў пакуль што заключаюцца ў тым, што ў складзе ўрада Джонсана засталіся два перадавыя дарадчыкі Кенедзі — дзяржаўны сакратар Раск і сакратар абароны Макнамара.

**УЛ. ЛАЗІНСКІ**



На здымку помнік ў Бухвалове.

## З іх крыві выраслі мы

Кожны чалавек баіцца смерці. Кожны чалавек хоча жыць. Некаторыя кажуць, што жыццё робіцца яшчэ даражэйшым, што хочацца жыць яшчэ больш, калі знаходзімся ў асабліва цяжкім становішчы, калі табе пагражае смерць, калі гэтая смерць прыходзіць раней, калі ты малады, калі ты яшчэ многа - многа мог бы зрабіць для сябе, для сваёй сям'і, для людзей. Людзі хацелі жыць і гінулі, масава гінулі ў час нямецкай акупацыі. Немцы па-зверску здзекваліся над мірным народам. У кожным павеце ёсць шмат месц масавага забойства.

Тэрор нямецкай акупацыі моцна адчулі жыхары Сакольшчыны. Апрача расстрэлаў у Крынках, Лазнях, Гаркавічах і іншых вёсках месцам масавай казні было Бухвалова. Тут расстрэлена каля 40 чалавек. Сярод іх 11 дзяцей. Ад рук акупантаў загінула сям'я настаўніка з Яцаўлян Язэпа Каматоўскага, у тым ліку 5-гадовы сын Рамуальд і 17-гадовы Тадэуш. Расстрэлена тут сям'я Віталіса Бароўскага разам з маленькімі дзецьмі — Зінай, Галінай і Антонам. З двума маленькімі дзецьмі загінула тут сям'я грам. Талочкі. Загінулі тут Абухоўскі, Бжазоўскі, Гадлеўскі, Паплаўскі, Асціловіч Рахэльскі, Курза і іншыя.

Сакольшчына была вызвалена ад нямецкіх захопнікаў у канцы чэрвеня 1944 года. Немцаў ужо не было, але людзі далей гінулі. Гінулі прыхільнікі народнай улады ад рук мясцовых рэакцыянераў. І тут у Бухвалове зноў лілася кроў. Ад рук рэакцыйнай банды загінула 10-асабовая сям'я Хлябічаў і сям'я Прымачка.

25 лістапада 1944 года банда ўзброеных наймітаў з былым абшарнікам Сахаркай напала на дзве успомненыя сям'і былых парабкаў, якія ў час парцэляцыі зямлі абшарніка Сахаркі атрымалі па 5 га і частку забудавання. Бандыты загналі свае ахвяры ў адну хату, страшна іх катавалі, а пасля расстралялі. Загінула 13 мужчын, жанчын і дзяцей. Не быў гэта ані першы, ані апошні напад і забойствы прыхільнікаў народнай улады.

Усе гэтыя людзі хацелі жыць, маглі б жыць. Усе яны разам з намі маглі б радавацца сённяшнім жыццём. Але кроў загінуўшых у перыяд гітлераўскай акупацыі і ў гады ўмацавання народнай улады не была пралітай бясплодна. На гэтай крыві многіх камуністаў і ўсіх змагароў за вольнасць і сацыяльную справядлівасць вырасла народная Польшча, радзіма людзей працы.

24 лістапада ў Бухвалове, на месцы масавай казні, адбылася вялікая ўрачыстасць, адкрыццё абеліска ў памяць загінуўшым. На ўрачыстасць сабралася каля 3 тысяч чалавек. Прысутнічаў і сакратар КВ ПАРП Вітальд Мікульскі.

**М. ХМЯЛЕЎСКІ**

## Гаспадарчыя праблемы на 1964 год

29 і 30 лістапада ў Варшаве абрадаваў XIV Пленум Цэнтральнага Камітэта ПАРП. Пленум разглядаў асноўныя гаспадарчыя праблемы на 1964 год.

У дакладзе Палітбюро падкрэсліваецца, што ў час рэалізацыі 5-гадовага плана наступіў адыход ад яго пачатковых залажэнняў у паасобных галінах нашай гаспадаркі. За тры першыя гады рэалізацыі 5-гадовага плана нацыянальны даход павялічыўся на 15,5% (намечана звыш 20%). Такі вялікі адыход ад намечанага плану ў атрыманні нацыянальнага даходу выкліканы гаспадарчымі вынікамі вельмі неспрыяльнага мінулага года і сёлеташняй зімы. Крыніцы недахопу ў выкананні плану выцякаюць перш за ўсё з сельскай гаспадаркі. 5-гадовы план закладаў дасягнуць у 1963 годзе сельскагаспадарчай прадукцыі ў параўнальных цэнах на 240,5 мільярдаў злотых. Аднак фактычна кошт яе складзе сёлета толькі 223,5 мільярдаў злотых. Невыкананне намечанага плану ў сельгасвытворчасці заключаецца ў вельмі неспрыяльным, неўраджайным 1962 годзе, у час якога сельгасвытворчасць абніжылася на 8,3%.

Уплыў неўраджайнага 1962 года не абмяжоўваецца толькі сельскай гаспадаркай. Ён нанёс свой адмоўны адпячатак на прамысловасць краіны і замежны гандаль.

У сувязі з гэтай цяжкай сітуацыяй партыя лічыць неабходным на наступны год паменшыць планаваныя сродкі на далейшыя капіталаўкладанні, а ў некаторых выпадках стрымаць іх на ўзроўні бягучага года. Не датычыць гэта сельскай гаспадаркі. У 1964 годзе дзяржава павялічыць капіталаўкладанні ў сельскай гаспадарцы на 33%, што акрэсліваецца сумай 13 мільярдаў злотых. У будучым годзе сельская гаспадарка атрымае 1030 тысяч тон мінеральных угнаенняў і 19880 трактараў. Значна таксама ўзрастуць даставы канцэнтраваных кармоў, што дапаможа павялічыць жывёлагадоўлю.

У арганізацыйнай частцы пленум адклікаў са складу сакратарыята ЦК Уладзіслава Матвіна і папоўніў з'ездаўскую камісію 14 новымі членамі, сярод якіх ёсць і І-шы сакратар КВ ПАРП у Беластоку Аркадзь Лашэвіч.

**Спорт**

## Спорт — гэта не толькі рэкорды

У цэнтры ўвагі ўсіх спартыўных арганізацый павінны стаць ідэйна-выхаваўчыя праблемы. Гэтага патрабуе цяперашняя сітуацыя. Хопіць чытаць паведамленні спартыўных саюзаў, каб пераканацца, што выхаваўчыя праблемы яшчэ не ўсюды трактуюцца нароўні са спартыўнымі трэніроўкамі. Кары сыплюцца, як з мяшка. Сярод іх ёсць і такія, што павінны быць сігналам трывогі. У валейбольнай камандзе жанчын «Сполэм» з Бельска - Падляшскага у гульнях на кубак ЦРЗЗ незаконна грала удзельніца пад іншым прозвішчам. У Галдапі футбаліст мясцовай Красовіі б'е на твары свайго праціўніка. Такія справы абмінуць нельга. Шырокая кампанія, якая разгарнулася ва ўсёй краіне з мэтай спыніць хуліганскія выбрыкі на стадыёнах, не можа абмінуць Беласточчыны.

Спартыўныя сустрэчы з'яўляюцца таксама нярэдка аказіяй для выскокаў пры падбадзёрванні сваёй каманды. Нецэнзурныя выкрыкі ў адрас гасцей ці суддзі пераважна не выклікаюць рэакцыі ў тых, хто глядзіць за парадкам. Часта вінаваты і самі арганізатары сустрэчы, правакацыйна сумняваючыся ў патрэбе інтэрвенцыі суддзі.

Бокс, баскетбол, валейбол — вось дысцыпліны спорту, якія ўвайшлі ў праграмы ў зімовы час. Гэтыя дысцыпліны нярэдка выклікаюць раптоўную рэакцыю балельшчыкаў. І таму нельга ігракам выступаць у ролі правакатараў, заахвочваць балельшчыкаў да крыкаў і беспарадкаў.

Хай арганізатары, а асабліва спартыўныя клубы, трэнеры і ігракі і аб гэтым памятаюць. Спорт — гэта не толькі рэкорды.

**Л. Тарасевіч**




У кіламетры ад вёскі Нікольскае атрад сустрэў баец, які праводзіў тут разведку. Ён паведаміў, што ў вёсцы знаходзіцца каля дваццаці немцаў і паліцаяў. Немцы начуюць у школе, а паліцаі — па хатах.

Падыйшлі да вёскі ўпрытык. Размясціўшы байцоў з флангаў вёскі і проста перад ёй, камандзір атрада Альховікаў вярнуўся да Рудзіна, які выбраў сабе месца на ўскраіне алешніку, які шырокай паласой цягнуўся на захад ад вёскі. Альховікаў прысеў побач з ім на зямлю і сказаў:

— Рубеж занялі добра. Праз гадзіну пачнем канцэрт. — Крануўшы Рудзіна за руку, дадаў: — Значыць, вы з карчоў нікуды. І пакуль мы не пачнем адыходу, сядзіце тут без руху.

— Вы пра мяне менш думайце, — строга сказаў Рудзін. — Рабіце сваю справу, а я — сваю.

Альховікаў памаўчаў і ўздыхнуў:

— Не ведаю навошта гэта робіцца, але вашаму лёсу не пазайздросціш.

— Думайце, паўтараю, аб сваім заданні.

Альховікаў пакрыўджана змоўк. У вызначаную



гадзіну ён устаў, і, падняўшы ракетніцу, выстраліў. І тут жа справа і злева затараторылі ручныя кулямёты. Альховікаў услухоўваўся ў гэтыя гукі, як дырыжор у ігру аркестра.

— Пачалі складна, — задаволена сказаў ён. Там, дзе ў вёсцы была школа, пачуўся звон разбітага шкла, крыкі і лаянка па-нямецку. Відавочна, салдаты гарнізона пакідалі памяшканне найкарацейшай дарогай — праз вокны. Немцы адкрылі агонь у адказ. Бязладная перастрэлка цягнулася каля гадзіны.

Неба на ўсходзе пачало прыкметна святлець. Флангавыя групы Альховікава, не спыняючы агонь, пачалі адыходзіць ад вёскі.

— Мае знімаюцца, — ціха сказаў Альховікаў і, памаўчаўшы, збянтэжана дадаў: — І мне пара... — Ён глядзеў на Рудзіна чакальна і здзіўлена, магчыма да гэтага часу яшчэ не верачы, што гэты чалавек зараз пойдзе здавацца ў палон.

Рудзін усміхнуўся яму.

— Дзякую старшыня. Ідзіце. Будніцкаму і ўсім вашым хлопцам — прывітанне...

Альховікаў устаў, паглядзеў яшчэ раз на Рудзіна, уздыхнуў і няспешна пайшоў па хмызняку. Здалёку ён яшчэ раз аглянуўся на Рудзіна і пайшоў хутчэй.

Рудзін устаў і памалу пайшоў да вёскі. Узняўшыся на ўзгорак, які быў якраз насупраць школы, ён схаваўся за ствалом дзікай яблыні. У перадсвітальнай імгле ён ужо адрозніваў ля школы сілуэты немцаў.



Рудзін заўважыў, што страляніны больш не было чуваць. Пачакаў яшчэ мінут дзесяць — ніводнага выстралу. Толькі хлешча, шуміць асенні дождж. Каля школы з'явіліся новыя немцы і паліцаі. Збіўшыся ў кучу, яны ўсхвалявана гутарылі.

Рудзін рашуча адштурхнуўся ад яблыні і пайшоў проста да школы. Неўзабаве немцы яго прыкмецілі і ўзялі аўтаматы напагатоў. Рудзін працягваў ісці, робячы выгляд быццам ён стараецца разабрацца, дзе ён знаходзіцца. Цяпер немцы бачылі яго добра, бачылі, што ён адзін і што ў руках яго няма зброі.

Яны не стралялі. Рудзін падыходзіў да іх усё бліжэй, і вось ён пачуў, як нехта з немцаў адрывіста загадаў:

— Узяць яго!

Двое немцаў і адзін паліцай пайшлі наперарэз Рудзіну. Рудзін спыніўся, падняў рукі. Ён стаяў і чакаў. Немцы і паліцаі падыйшлі да яго і ў трох кроках спыніліся.

— Абшукаць! — загадаў паліцаю адзін з немцаў.

Паліцай, не зводзячы злосных вачэй з Рудзіна, падыйшоў да яго і пачаў вобыск. З кішэні ватніка выцягнуў пісталет і вярнуўся да немцаў.

— Ідзі! — крыкнуў Рудзіну адзін з немцаў.

— Куды? — па-нямецку спытаў Рудзін.

Немец здзіўлена паглядзеў на яго і паказаў рукой у бок школы.

З групы, якая стаяла каля школы, наперад выйшаў высокі афіцэр з нашыўкамі малодшага лейтэнанта.

З ПІСЕМ ЗЕМЛЯКОЎ

# ПІШУ ТАБЕ НАВІНУ НЕЗВЫЧАЙНУЮ...

...Тая Ромка чарнявая, што на калёніі каля луга жыве, мела на днях непрыемнасць вялікую. Усё ад кавалерскіх залётаў пачалося. Нядаўна прыстаў да яе Янак, Вінцукоў сын найстарэйшы, хлопец працавіты і прыстойны нават, але нявучаны. Сям'я ў іх людная, яшчэ два браты дарастаюць ды сястрыца малая. Ім толькі ў Беластоку прыдзецца работу сабе шукаць, бо ж на тых чатырох гектарах дай Бог аднаму Янку чалавекам стаць і хату з чарапічным дахам паставіць, каб не душыцца ў дзедавай кучцы саламянай.

Сама ведаеш, гэтакіх жаніхоў, як Янак, Ромка заўсёды і ўсюды можа мець. Словам, яе бацькам не надта падабаўся ён, бо бедны. Відаць, і ёй ён не прыйшоўся да густу. Пэўна таму, што яму моцна хочацца на гаспадарку добрую збіцца, і ён прыхавае дзе які-лень грош, цукерак дарагіх ніколі не купіць дзяўчыне ды аранжадаю ўволю на танцах пры буфеце не пачастуе...

Ромка ж не прызвычаеная скупіцца, шкадаваць грошай на выдаткі свае, паласункі розныя. Прытым, куды там Янку задрыпанаму, што на гарнітур з крэпы сабе не разжыўся, да Ромкі выфранчанай, дагледжанай, як лялечка румянай! Неяк ад часу дажынак, бачым, прыязджае да яе ледзь ні кожную нядзелю новы дохтар з мястэчка ці то фельчар, як цвердзяць маладыя. Я да яго зблізку не прыглядалася, бо разам яны ў вёсцы не паказваюцца. Чуваць, што нібы вяселле на зіму згаворыцца. Ромка цяпер сама прынялася яблыкамі гандляваць па кірмашах блізкіх і далёкіх, ды і наогул на ўсякі лад запасіць грошы, збываючы гародніну лішнюю і не лішнюю. З гэтага і мяркую я, што няйначай ужо дагавор стаў, значыць, каб да шлюбу рыхтавацца.

Янку, вядома, як бы хто па носе даў, і ў суботу дзесьці запіўся пры малацьбе, што з ім ні разу так не бывала. А пазаўчора на свае вочы бачыла, як Ромка праз нашу вёску праязджала балёнам на торг. І ля маста Янак прысеў да яе, штосьці падсмейваўся з дзяўчыны, каня запыняў, лейцы выхапляў з рук, аж разгневалася яна ды сагнала яго на дарогу, і хутка паехала далей. Ён пастаяў крыху, бы засароміўшыся, потым пабег дахаты. Я ўзялася свінням есці даваць і не ведала, што там пасля рабілася. Пад вечар загаварылі ў вёсцы, што ён, патаптаўшыся наўкруг хаты, пазычыў у суседа ровар ды пагнаўся за ёю следам. Нагнаў Ромку зараз жа за леснічоўкаю, непадалёк Хлусавага багна, і адразу кінуўся гвалтам да яе лезці, сілком узяць хацеў адну ў лесе, ажно конь перапужаўся ад ляманту, панёс, вывярнуў фуру ў роў, аглоблі паламаў ды ногі сабе пакалечыў да крыві. Ромка прыперла, кажуць, да хаты з плачам, у адзенні падраным, а Янак з усяго таго не тое, што суседавага ровара пакінуў у рове ля разбітага воза, але і сам не паяўляўся цэлую ноч, да ранку. Бацька Вінцук хадзіў у лес шукаць яго, каб чаго - небудзь кепскага не зрабіў з сабою.

Вось дзівак, Янак малады — на гектары ды забудову палакоміўся Ромкі багатай; задумаў, каб мусам ішла за яго замуж, не гледзячы, як жыў бы з жонкаю гордаю. Якая ж цяпер дзяўчына талковая згодзіцца, каб Янак, людзьмі абсмеяны, у сваты выбіраўся, раз яму ў галаве настолькі памяшалася, га?

Зрэшты, з Янка мо' і нямаш чаго дзівавацъ вельмі, калі ў іх уся сям'я гэтакая. Бацька, гэты Вінцук стары, адлюдак чысты, толькі і знае сядзець крыцаю ў кухні вечарамі ды бурчаць на матку, прыпамінаючы ёй ужо невядома каторы раз, што швагер калісьці, яшчэ да вайны, ашукаў яго і не дадаў загона пасажнага яму ў палетку астраўскім, як бы ў наш час чалавек без зямлі прападаць мае!

АДОЛЬ КАСТРЫЦА

СЕЛЬСКАЯ ГАСПАДАРКА БЕЗ ТАЯМНІЦ

# ШУКАЙ ГРОШАЙ У... ГАСПАДАРЦЫ

Плануем, абдумваем, сеем, арэм і збіраем. Каб было ўдосталь хлеба, мяса, малака і іншых неабходных прадуктаў. Каб прамысловасць мела сыравіну. З думкай аб сабе і аб другіх. Для грошай.

Сяляне па-рознаму зарабляюць. Некаторыя вельмі добра, як, напр., у Сакольскім павеце, атрымліваючы па 100 тыс. злотых за гектар цыбулі. За цукровыя буракі, тытунь, лён, гародніну і іншыя прадукты — сотні тысяч злотых. Толькі адны гмінныя спулдзельні нашага ваяводства выплачваюць сялянам штогод каля паўмільярда злотых.

Але ёсць і такія, што лічаць грошы не тысячамі, а толькі сотнямі. Паглядзім на іх гаспадарку. Трохі жыта, трохі аўса, кавалак бульбы, запушчаны луг, худая жывёла. Замест саліднай працы ездзяць у «павет» або «ваяводства», выпрашваючы ільготы. А ці не лепей было б прасіць умелай дапамогі агранома? Але не. Яны ўпарта стаяць на сваім, не верачы ні ў кваліфікаванае насенне бульбы ці збожжа, ні ў мінеральныя ўгнаенні, ні ў сродкі аховы раслін.

Калі пачынаем планаваць, адразу праводзім калькуляцыю: колькі выдана і колькі атрымаецца. Уся справа ў тым, каб як найменш выдаць, а больш атрымаць, вядома, без шкоды для глебы.

Як паказваюць доследы Інстытута сельскагаспадарчай эканомікі, сярэдняя вартасць сельгаспрадукцыі складае 11.569 зл. (большы даход з расліннай прадукцыі). На Беласточчыне значна большы даход атрымліваем з жывёльнай прадукцыі, асабліва за малако і свініну (у апошні час і ялавічыну).

Варта пазнаёміцца з доляй асобных культур у агульных даходах гаспадарак. Напр., збожжа, якое займае ў нас 62% плошчы, дае 19% даходу. даход з бульбы 17% (а па плошчы займаем адно з першых месц у краіне). Прамысловыя расліны давалі толькі 5% усіх даходаў.

Уклад грошай на кожны гектар складае каля 4100 — 4800 зл., а іншыя выдаткі — 1127 зл. Агульны даход вагаецца ў граніцах 3338 — 3853 зл.

Беластоцкая сельская гаспадарка і далей характарызуецца параўнаўча нізкімі як даходамі, так і выдаткамі. Ёсць сяляне, якія гадуюць кароў з надоямі толькі да 1500 літраў малака ў год, а гэта зусім не аплачваецца. Добрымі каровамі можна лічыць каровы, якія даюць больш 2500 літраў у год. Чаму? Таму, што кошт 1 літра малака зніжаецца з павышэннем надояў. Справа ў тым, што корм для жывёлы дзеліцца на бытавы (каб жывёла магла жыць) і прадукцыйны (па малако і мяса.) З павелічэннем прадукцыі бытавы корм павялічваецца нязначна. У такім выпадку жывёла выкарыстоўвае корм на павелічэнне прадукцыі, што абніжае яе кошты.

Як бачым, варта пашукаць грошай у сваёй уласнай гаспадарцы.

Інж. М. Сухажэбрскі

# ДЗЕ ТВАЁ МЕСЦА, МАЛАДЫ ЧАЛАВЕК?

(Працяг са стар. 1)

вёскі. Шаблонна пераносяцца на вёску гарадскія формы працы. Не апрацоўваецца тыпова вясковых форм працы. Моладзь на вёсцы застаецца самапасам. Пазаўчора, позным вечарам еду праз вёску Трасцянка. Кучка хлопцаў свеціць на нас чырвоным святлом. Лаўлю аднаго і вяду да бацькоў. «А куды ж яны пойдуць?» — пытаюць мяне бацькі. А я задаю гэтае пытанне ўстановам, арганізацыям. Светліцовае жыццё на вёсцы існуе толькі на паперы. Ніхто не цікавіцца, што турбуе моладзь.

Забавы на вёсцы арганізуюцца не для культурнай разрыўкі, а для даходу. Інспектараты культуры выдаюць дазволы на забавы, але зусім не кантралююць іх. А на тых забавах — п'янства, бойкі.

Хуліганства на вёсцы, — кажам, — а дзе крыніцы? Адкуль прыклад? Паглядзіце, у гасподзе 50-гадовы п'е побач з малакасосам. Чаму старэйшы не возьме паса, не пагоніць? Чаму такая абыякавасць старэйшых, чаму такі недахоп выхаваўчых рэакцый у грамадстве?

Гасподы не прытрымліваюцца гадзін замыкання. Гарэлка прадаецца п'яным, якія па зямлі валяюцца. Міліцыя не дагледжвае, — кажуць. А чаму сам ГС не кантралюе, не робіць вывадаў? Мы за супрацоўніцтва. У Сямяціцкім павеце ужо пачалася супольная праца міліцыі і ГС-аў. Добры прыклад. Прапануем узняць гэтыя справы на бліжэйшай нарадзе

**ЯН ВЕЖБІЦКІ — прэзэс ВЗГС.**

Вясковая моладзь, калі будзе мець цікавы і карысны занятак, будзе зацікаўлена ў прадукцыі, кавярнях, рознай спулдзельчай дзейнасці, будзе мець значна менш магчымасцей і аказій на гарэлку.

Нашы гастранамічныя пункты на вёсцы. Узровень працы ў іх павышаем і будзем павышаць. Мы ўжо падвучылі многа працаўнікоў гэтых пунктаў. Пастанавілі сюды прымаць да працы толькі людзей з сярэдняй адукацыяй і адпаведнай падрыхтоўкай. Ад мінулага года прыступілі да шырокай мадэрнізацыі нашых гандлёвых пунктаў. Не шкадуем грошай на выгаднае і прыгожае абсталяванне. Хочам, каб месца, куды зайдзе чалавек, уздзейнічала на яго сваёй утульнасцю і прыемнасцю, каб ён не меў адвагі ні ў ім піць, ні пакінуць яго для гарэлкі.

Тут неабходны грамадскі кантроль і добры прыклад старэйшых. У нас на вёсцы няма гэтага.

*

У нашай размове, як бачым, закранута многа істотных прычын вузкага, здавалася б, пытання: чаму вясковая моладзь п'е?

Цікава, што становішча нашых размоўцаў часта супадае ў канкрэтных справах: адносіны старэйшых да моладзі, адсутнасць хоць бы нейкай грамадскай адказнасці, гасподы, недахоп зацікаўлення маладога чалавека гаспадарчым жыццём.

Дзе месца ў жыцці маладога чалавека на вёсцы?

Вось сэнс нашай размовы. Памагчы знайсці гэтае месца, значыць, пачаць ад рэчы простай і адначасова складанай — ад зразумення, што край мой — дом мой, у якім адчуваю сябе добра.

Размаўляла

ВЕРА ЛЕЎЧУК

Ул. Станкевіч

# ДАМБРАЎШЧАКІ

Мінула 25 год, як выйшлі з Іспаніі польскія барацьбіты — добраахвотнікі «дамбраўшчакі», якія праз два гады дапамагалі іспанскаму народу ў змаганні супроць сваіх і замежных фашыстаў. Вышлі яны з Іспаніі не таму, што былі пакананы, а таму, што ў сувязі з жаданнем Лігі Нацый іспанскі ўрад Народнага Адзінства вырашыў вывесці з краю ўсіх добраахвотнікаў, прыбыўшых у 1936 г. у Іспанію з розных краін на дапамогу ў абароне Рэспублікі.

14 красавіка 1934 г. перастала існаваць зненавіджаная ўсім іспанскім народам манархія і нарадзілася рэспубліка. Але рэакцыйныя сілы не пагадзіліся з тым гістарычным фактам і, выкарыстоўваючы слабасць рэспублікі, грамадскія нязгоднасці, выклікаемыя супрацьдзеяннем розных партый, у 1934 годзе стварылі свой урад і намагаліся падпарадкаваць сабе ўвесь народ. Працоўныя Іспаніі паўсталі да барацьбы супроць рэакцыі, аднак паўстанне гэтае было жорстка падаўлена, і ўлада засталася ў руках рэакцыі. Ненадоўга. У 1935 годзе кіраўніцтвы дэмакратычных і антыфашысцкіх партый дайшлі да зразумення, што толькі ў адзінстве сіла, што толькі супольным народным фронтам можна паканаць рэакцыю. Створаны адзіны фронт іспанскага народа ў лютым 1936 года на выбарах у парламент выставіў сваіх кандыдатаў. Галасаванне дало абсалютную большасць прадстаўнікоў у парламенце Народнаму фронту, які, дзякуючы гэтаму, узяў у свае рукі ўладу і стварыў Урад Народнага Адзінства.

Іспанскія фашысты не падпарадкаваліся волі народа і пры дапамозе міжнароднага фашызму 18 ліпеня 1936 года выступілі са зброяй у руках супроць законнага ўрада. Нямецкія і італьянскія фашысты, якія ў той час моцна трымалі ўладу ў сваіх руках, прыслалі ў Іспанію войска ў дапамогу іспанскім фашыстам.

Працоўныя Іспаніі звярнуліся да працоўных усяго свету з просьбай аб дапамозе. У адказ на просьбу пачалі прыбываць у Іспанію добраахвотнікі - антыфашысты з усіх краін, далучаліся ў рады рэспубліканскай арміі, каб ваяваць супроць фашыстаў. Прыбывалі добраахвотнікі і з Польшчы. Хоць у гэтым часе працоўныя Польшчы вялі жорсткую барацьбу супроць сваіх фашыстаў — сотні антыфашыстаў з Камуністычнай Партыі і другіх дэмакратычных партый шукала дарогі ў Іспанію, што было тады не лёгкай справай. Ехалі ў Іспанію з Польшчы палякі, беларусы, украінцы, літоўцы, яўрэі. Ствараліся ў Іспаніі інтэрнацыянальныя брыгады добраахвотнікаў, у склад якіх уваходзілі і польскія батальёны: імя Адама Міцкевіча, імя Бартоша Главацкага, імя Яраслава Дамброўскага і іншыя.

У чэрвені 1937 года з паасобных польскіх батальёнаў утварылася Брыгада імя Я. Дамброўскага і яе ўдзельнікі пачалі называцца папулярна дамбраўшчакамі. Выдавалі свой часопіс на польскай мове. «Охотнік вольносці».

Камуністычная Партыя Польшчы выдала маніфест да дамбраўшчакаў, у якім пісалася: «...У той час, калі саюзнікі Гітлера паны Бэк і Складкоўскі ганьбяць імя Польшчы, гандлююць крывёю польскага народа і незалежнасцю нашай бацькаўшчыны, у той час, калі фашысты намагаюцца зрабіць з Польшчы жандара Еўропы, Вы і Вашыя подзвігі паказалі ўсяму свету, што тая Польшча, якая заўсёды і ўсюды змагалася за свабоду, жыве і далей...» У 1937 годзе вясною наведалі Брыгаду імя Дамброўскага прадстаўнікі працоўных Польшчы: Здаsucceedоўскі — сакратар Цэнтральнай Камісіі Класавых Прафесіянальных Саюзаў, Рваль — прадстаўнік Камуністычнай Партыі Польшчы і Альтэр — прадстаўнік ЦК «Бунду» (Сацыялістычная Яўрэйская партыя). Яны ўручылі брыгадзе чырвоны сцяг ад працоўных Польшчы. Пад гэтым сцягам брыгада польскіх антыфашыстаў геральчна змагалася на ўсіх франтах супроць фашысцкіх бандытаў, якія напалі на працоўных Іспаніі.

На пачатку ліпеня 1937 года ў склад брыгады дамбраўшчакаў увайшоў новаўтвораны батальён імя Паляфокса (прозвіш-

# Пра салодкі корань

Цукровы бурак — гэта коранеплод. Аб правілах яго вырошчвання можа расказаць не толькі аграном, але амаль кожны гаспадар... гацькоўскай аколіцы. Закупачны пункт цукровага бурака ў Гацьках пад Бельскам мае поўныя рукі работы амаль да першых маразоў. Ад канца месяца верасня да паловы лістапада закупіў ён ад сялян дзесяці навакольных вёсак 3.314.200 кілаграмаў гэтага салодкага кораня. Як бачым, справа тут дайшла да мільёнаў.

Да цукроўняў паспелі вывезці менш палавіны.

Ад ранку да вечара чуваць рокат трактара, маладыя грузчыкі, не адгінаючыся, выціраюць успацелы твар.

Што ж — каму жніво летам, а каму і восенню.

Тэкст і фота —
**С. Яновіч**



# Пісьмо з дубінскай грамады

Ужо чацвёрты год гаспадары нашай грамады прымаюць актыўны ўдзел у святкаваннях Тысячагоддзя Польскай Дзяржавы. У сувязі з гэтым праяўлена шмат ініцыятывы ў далейшым развіцці гаспадарчага і культурнага жыцця аколіцы. Дзякуючы працы грамадскім чынам у мінулым годзе пабудаваны дзве прыгожыя крамы, мураваная святліца, праведзена электрыфікацыя трох вёсак, а ў Пасталове забрукавана вясковая вуліца. Агульная вартасць выкананых насельніцтвам прац ацэнена на чатырыста тысяч злотых.

1963 год названы Годам Беластоцкай Зямлі, што прычынілася да яшчэ мацнейшай актывізацыі ўсяго нашага насельніцтва. І так, праведзены рамонт шасцісот метраў шасэйных дарог, забрукавана вуліца ў Савіным Грудзе. У Навасадах пракапана адзін кіламетр меліярацыйнага рову, а таксама шмат дапамаглі людзі ў будове вучнёўскіх варштатаў пры мясцовай школе. Тое самае можна сказаць пра людскую дапамогу пры пабудове новага школьнага будынка ў Дубінах. Тут вартасць работ, выкананых грамадскім чынам, ацэньваецца на звыш 63 тысяч злотых.

Агульная вартасць працы грамадскім чынам за бягучы год на тэрыторыі дубінскай грамады даходзіць да чатырохсот васьмідзесяці тысяч злотых. Сваёй ахвярнай працай гаспадары нашых вёсак паказалі, што належна разумеюць грамадскі інтарэс.

**Мечыслаў Валенда**
— старшыня грамадскай рады ў Дубінах

# ДАКУМЕНТЫ ВЫЯЎЛЯЮЦЬ ЗЛАЧЫНСТВЫ

**(ДА ВЫХАДУ КНІГІ «ЗЛАЧЫНСТВЫ НЯМЕЦКА - ФАШЫСЦКІХ АКУПАНТАЎ НА БЕЛАРУСІ»)**

Дзяржаўнае выдавецтва БССР выпусціла нядаўна кнігу, якая гаворыць аб страшэнных злачынствах гітлераўцаў у перыяд часовай акупацыі імі Беларусі. Аб сур'ёзнасці гэтага несумненна каштоўнага выдання гаворыць факт, што тут выкарыстаны дакументы і матэрыялы, якія захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі Партыі пры ЦК КПБ, у Інстытуце гісторыі Акадэміі Навук БССР і Цэнтральным дзяржаўным архіве Кастрычніцкай рэвалюцыі і сацыялістычнага будаўніцтва БССР.

У кнізе ў значнай большасці выпадкаў публікуюцца арыгінальныя гітлераўскія дакументы ў выглядзе планаў, інструкцый, загадаў, справаздач, тэлеграмаў, мемуарных запісаў. Змест іх не вымагае ніякіх абмяркоўак ці каментарыяў. Усё тут раскрывае пачварны апарат гітлераўскай сістэмы планавага знішчэння духоўных і матэрыяльных каштоўнасцей беларускага народа. За сухімі фармуліроўкамі і сказамі распараджэнняў акупацыйных улад крыюцца спаленыя гарады і вёскі, сотні тысяч усмерчаных мірных савецкіх грамадзян і ваеннапалонных, голад, галеча і невыносныя мучэнні людзей пад ярмом захопнікаў, якія называлі сябе носьбітамі культуры. У выданні знаходзім таксама акты паасобных савецкіх дзяржаўных органаў, выяўляючых гітлераўскія злачынствы. Несумненную цікавасць прыцягваюць між іншым заяўленні паасобных грамадзян — сведкаў гэтых жудасных фактаў. Заяўленні часам уяўляюць сабою падзённую хроніку акупацыйных будняў. У кнізе маем таксама наглядныя сведчанні шырокага партызанскага руху на Беларусі, садзеянне яму ўсяго насельніцтва. Нягледзячы на жорсткія расправы акупацыйных войск над грамадзянамі, дапамагаючымі партызанам, непахіснай была воля працягваць змаганне супроць ненавіснага ворага.

Кнігу завяршаюць фотадакументы, частку якіх складаюць фатаграфіі, зробленыя гітлераўцамі. Ізноў перад намі праходзяць карціны іх злачынстваў. Толькі ў гэтым выпадку бачым ужо самых выканаўцаў, часам з самадавольнай усмешкай, часам з «геройскім» выразам на твары, што «дастойна» выкананы загад фюрэра. Побач іх павешаныя ці застрэленыя савецкія грамадзяне, горбы трупаў, спаленыя вёскі. Як вынікае са змешчаных у кнізе паказанняў зняволеных савецкімі органамі гітлераўцаў, яны самі, зрэшты, праяўлялі ахвотна ініцыятыву ў гэтых мерапрыемствах. У канцы выдання змешчаны геаграфічны паказальнік. Гэты пералік вёсак, гарадоў, абласцей дазваляе сабе ўявіць грандыёзныя размеры гітлераўскіх злачынстваў па тэрытарыяльнаму прынцыпу.

У цэласці кніга не толькі зборнік матэрыялаў і дакументаў, адлюстроўваючых гэтае жудаснае мінулае, але таксама моцны надзённы дакумент. Ён гаворыць аб заканамернасцях у дзеянні чалавеканенавісніцкай сістэмы, якой быў нямецкі фашызм, і перасцерагае перад патураннем з боку заходніх імперыялістаў прыхільнікам гэтай сістэмы ў ФРГ.

**М. КАНАПАЦКІ**

# РЭАЛІЗАЦЫЯ ЛІПЕНЬСКАЙ ПАСТАНОВЫ

Ацэньваючы ход рэалізацыі ліпеньскай пастановы Рады Міністраў і Цэнтральнай Рады прафсаюзаў у Гайнаўскім павеце, трэба прызнаць, што завадскія і фабрычныя калектывы закончылі сваю працу, а іх прапановы былі разгледжаны і зацверджаны на канферэнцыях рабочага самаўпраўлення або на іншых сходах.

На гайнаўскіх прадпрыемствах галоўных галін прамысловасці рабочыя дакладна прааналізавалі гаспадарчую сітуацыю прадпрыемстваў, звяртаючы асаблівую ўвагу на арганізацыю і выдайнасць працы, на фонд зарплат і прыём новых рабочых, якія значна апярэджвалі рост прадукцыі. Прыкладам гэтага можа паслужыць Гайнаўскае прадпрыемства драўніннай прамысловасці, дзе план прыёму новых рабочых вытворчай групы штогод перавыконваецца на 9,7%, валавая прадукцыя — толькі на 0,5%, а план павышэння выдайнасці працы выконваецца толькі на 91,7%. Прапановы, якія сталі на парадку дня канферэнцыі рабочага самаўпраўлення, заключалі ў сабе лепшую арганізацыю і большую механізацыю працы. Яны дадуць магчымасць дабіцца выканання гадавога плана на 102,8% пры змяншэнні групы рабочых на 71 асобу. Гэтыя рабочыя атрымалі магчымасць працаваць у Беластоцкім прадпрыемстве прамысловага будаўніцтва, якое вядзе будаўніча - мантажныя работы для гэтага прадпрыемства. Дырэкцыя ГЗПД вырашыла павялічыць план экспартнай і антыімпартнай прадукцыі. Усё гэта ўжо цяпер спрыяе ўзмацненню дысцыпліны і лепшай арганізацыі працы.

Інакш пастаўлена справа на Гайнаўскай фабрыцы лясных машын, дзе спачатку не прыдалі вялікага значэння ліпеньскай пастанове. План валавой прадукцыі за I паўгоддзе быў выкананы на 86,8%, прыём новых рабочых — на 105,8%, прычым паказчыкі сярэдняй зарплаты значна перавысілі рост выдайнасці працы, якая дасягнула толькі 80,8%. На канферэнцыях рабочага самаўпраўлення вырашана палепшыць арганізацыю і механізацыю працы. Гэта павінна прынесці эканомію на 5600 рабочагадзін. Аднак на канферэнцыі вырашылі за гэты кошт, не змяншаючы колькасць рабочых, павялічыць валавую прадукцыю на суму 4 млн. злотых.

На фабрыцы сухой дэстыляцыі драўніны праца ўсяго калектыва, наогул, праходзіла раўнамерна. Канферэнцыя рабочага самаўпраўлення прыняла пастанову павялічыць прадукцыю ў IV квартале гэтага года на суму 747.000 злотых і зменшыць фонд заработнай платы на 215.700 зл. пры адначасовым узросце прадукцыі на 3,3% у параўнанні да гэтага года.

У насычальні драўніны ў Чаромусе вырашана павялічыць эканамічныя паказчыкі, не змяняючы колькасці рабочых. У дэпо Чаромуха і ў службе руху ПКП у павеце прапановы датычылі галоўным чынам паляпшэння арганізацыі і дысцыпліны працы так, каб выканаць заданні рамонтаў і перавозак пры існуючай колькасці рабочых.

Таксама грунтоўна прааналізавалі сваю працу спулдзельні працы ў павеце і ўнеслі свае прапановы. Аднак трэба прызнаць, што некаторыя з гэтых прапаноў нерэальныя. Імена такімі можна назваць прапановы павятовага саюза гмінных спулдзельняў «Самопомоц хлопска» ў Гайнаўцы.

Спулдзельня спажыўцаў, аналізуючы пастановы РМ і ЦРЗЗ, вырашыла сэканоміць да канца гэтага года 5.374 тыс. злотых.

**Ю. КОЗАК**



# У Шпаках ля дарогі...

...будуецца святліца. Шэсць год будуецца.

Солтыс разгарнуў перад намі яе планы, якія каштавалі вёсцы добрых пару тысяч злотых. Будзе надзвычайны будынак з вялікай залай, чытальняй, бібліятэкай.

Кошт усяго аблічваецца сотнямі тысяч злотых. Адкуль узяць такую суму? Шпакаўчане не шкадуюць сваіх рук, дапамагаюць, але гэтага яшчэ надта мала. На шчасце вёскі, спадабаўся дарогабудаўнічай фірме мясцовы жвір, і гандаль бойка рушыў. За выручаныя грошы раздабылі бэлькі, зрабілі кроквы, вокны. Работа затрымалася на тым, што не могуць знайсці спецыяліста па жалезабетонных канструкцыях. І тут зусім на месцы просьба аб дапамозе да бельскіх павятовых улад. Тым болей, што дагэтуль яны не далажыліся нават грашаком да ініцыятывы шпакоўскіх людзей.

Тэкст і фота —
— ся

---

...ча народнага героя барацьбы за незалежнасць Іспаніі). Добраахвотнікамі ў гэтым батальёне былі беларусы і ўкраінцы, прыбыўшыя з Польшчы, Канады і другіх краін. Камендантам батальёна імя Паляфокса быў Ян Ткачоў (з Жэшоўшчыны), а палітычным камісарам — беларус Станіслаў Тамашэвіч, сын рабочага-чыгуначніка, член Камуністычнай Партыі Заходняй Беларусі. Тамашэвіч загінуў у баю ў красавіку 1938 года.

Пастанова іспанскага рэспубліканскага ўрада (у кастрычніку 1938 г.) аб вывадзе з Іспаніі ўсіх барацьбітоў - іншаземцаў была ўспрынята добраахвотнікамі як балючая неабходнасць. Не лёгка было пакідаць пазіцыі ў барацьбе, якая яшчэ не закончылася, зямлю, у якой спачыла шмат таварышоў.

Брыгада імя Яраслава Дамброўскага перад адыходам з Іспаніі прыняла наступную прысягу:

«Мы, дамбраўшчакі, добраахвотнікі барацьбы за свабоду, салдаты непераможнай арміі іспанскага народа, сыны народаў Польшчы, смяротныя ворагі фашызму, варварства, нацыянальнага прыгнёту, прысягаем тут, на дарагой нам іспанскай зямлі, на якой пакідаем магілы нашых таварышоў; прысягаем на кроў і раны, панесеныя ў барацьбе з фашызмам, на сваё рэвалюцыйнае і антыфашысцкае сумленне, на сцяг Мадрыда, на ўсе нашыя баявыя сцягі, на медаль Рэспублікі, што да апошняга дыхання, верныя ідэям, за якія мы прыйшлі змагацца сюды, у Іспанію, будзем працягваць барацьбу ўсюды там, дзе прыдзецца нам быць. Прысягаем вечную вернасць народу Іспаніі, з якім змяшалася наша кроў, пралітая ў баях... і яшчэ раз урачыста заяўляем, што вернемся ў рады рэспубліканскай Арміі заўсёды і з кожнага краю, калі толькі Рэспубліка нас пакліча... А калі не давядзецца нам больш вярнуцца да Вас, іспанцы, дык зберажэм у нашых сэрцах і ў сэрцах нашых пакаленняў вечную дружбу і вечную памяць аб Вашай вялікай любві да свабоды і Вашай барацьбе за яе».

Палымяная іспанская рэвалюцыянерка Даларэс Ібаруры 15 снежня 1938 года на развітальным мітынгу дамбраўшчакаў гаварыла:

«... Бязмерна ўдзячнасць іспанскага народа для добраахвотнікаў, якія прыйшлі з самаахвярнай дапамогай нашай Рэспубліцы тады, калі вораг пагражаў усім здабытым дасягненням іспанскага народа. Цяпер Вы ад'язджаеце, каб у сваіх краінах пачаць жыццё, поўнае праследаванняў, цяжкай працы і барацьбы... Іспанскі народ не забудзе Вас ніколі...»

Добраахвотнікі выйшлі з баявых акопаў, выехалі з Іспаніі і працягвалі барацьбу ўсюды там, дзе апынуліся. Многія вярнуліся да сваіх краін, каб уключыцца ў плынь змагання супроць уласных ворагаў, а шмат было такіх, у тым ліку і добраахвотнікаў з Польшчы, якія, не маючы магчымасці вярнуцца ў свой край, уключыліся ў барацьбу ўсюды там, дзе знайшлі прыпынак. Усюды яны змагаліся «за вашу і нашу свабоду».

**Уладзімір СТАНКЕВІЧ**

НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

# Яны мелі рацыю

Карабель «Вашынгтон» уваходзіў у склад транспартнага канвою PQ—17, які ў 1942 годзе плыў праз Ісландыю ў Расію. З нарвежскага ўзбярэжжа атакавалі яго эскадрыллі гітлераўскіх бамбардыроўшчыкаў і тарпедных самалётаў. Тры караблі пайшло на дно. Адміралцейства атрымала звесткі, што гітлераўскае ваенна - марское камандаванне рашыла дашчэнту знішчыць канвой PQ—17. Каб не дапусціць да гэтага, прыйшлося прабірацца ўрассыпку. «Вашынгтон» накіраваўся на поўнач — чым далей ад варожых базаў. Доўгі час плыў уздоўж ледавых палёў Ледавітага акіяна.

Каля дванаццатай гадзіны дня напаткаў два англійскія караблі, якія ішлі тым жа курсам. А ужо каля трэцяй гадзіны пасля абеду тут-як-тут налецеў з-за хмар нямецкі Юнкерс—88, пачаў страляць з кулямётаў па палубе і кідаць бомбы. Атака не прычыніла караблям шкоды, але было ясна, што яны выкрыты. І сапраўды, цераз сорак мінут паявілася эскадрылля з васьмі штурмавікоў. Разбушавалася смяротнае пекла. Увесь экіпаж «Вашынгтона» — 46 чалавек — шчасліва выратаваўся на трох лодках. Нацiскаючы з усіх сіл на вёслы, кіравалiся да савецкага берагу.

Паводле разлікаў афіцэраў, у адлегласці трохсот міль на ўсход знаходзілася Новая Зямля. У лодках меліся запасы шакалада, сушанага мяса, цукру, сухароў, кандэнсаванага малака, а таксама салодкай вады. Значыць, былі ўсе магчымасці дабрацца да сушы.

Тым часам, адвячоркам, далёка паказалася смуга дыму. Неўзабаве распазнана амерыканскі транспартны карабель «Алапене», які спяшыў на ратунак. (Перад катастрофай радыётэлеграфіст «Вашынгтона» паспеў перадаць сігнал трывогі — SOS). Матросы з двух разбітых англійскіх транспартнікаў хутка павесялалі да «Алапены», аднак экіпаж «Вашынгтона» плыў далей, як бы не заўважыўшы выбаўцы.

Загадка простая, хаця, здавалася б, неверагодная. Вось у лодках адбыліся кароткія нарады і аднагалосна было вырашана не «ратавацца». Гэтыя людзі не хацелі зноў апынуцца на палубе карабля, які лёгка могуць заўважыць самалёты і падводныя лодкі. А ў сваіх лодках мелі ўсё і адчувалі сябе значна бяспечней.

Яшчэ два дні веславалі на ўсход сярод рэдкай крыгі і ледзяных гор — айсбергаў. Дрыжалі ад холаду паміма цёплай адзежы. Каб утрымаць сілы і абагрэцца многа елі. Затым многа пілі вады, бо спажывецкія канцэнтраты выклікаюць смагу...

На трэці дзень нечакана нахлынула цемната, небакрай знік у звалах хмар, падзьмуў моцны вецер, пачаў падаць густы снег. Страшна завыў ураган, прадвяшчаючы бязлітасны шторм. Людзі выбіваліся з сіл, рэшткамі намаганняў удавалася ўтрымаць лодкі насупраць хваль, каб не павярнула іх бокам, бо тады чакаў бы ўсіх канец. Пры вёслах мяняліся што пару мінут. Удары крыгі аб крыгу раздаваліся, бы гарматныя выстралы. Барацьба з акіянам цягнулася некалькі гадзін. Потым шторм прыціх так жа раптоўна, як наляцеў. Віхура разагнала лодкі ў розныя бакі.

Цяпер кожны стараўся чым хутчэй забыць перажыты кашмар. Усе кінуліся выліваць з лодак ваду, прасушыць на марозным ветры адзенне. Надышла ноч. Ранкам давялося перанесці яшчэ адзін шторм, страшнейшы ад учарашняга. Кідала так, быццам бы свет пераварочваўся дагары. З надыходам другой ночы бура прыціхла. Людзі абяссілелі. Толькі ўдзень хтосьці закрычаў: «Зямля!».

Гэта была Новая Зямля. Птушкі тут не баяліся сваіх дзіўных гасцей, пакуль не пачулі выстралаў. Свежае мяса з палявання надта прыдалося галодным і прамерзнутым матросам. Аднак на Новай Зямлі ніхто не жыў. Трэба было ізноў брацца за вёслы і плысці далей, на пошукі людскіх паселішчаў.

Усміхнулася шчасце, а хутчэй за ўсё шчасце ў няшчасці: ля берагоў пустыннага вострава напаткалі засеўшы на мялізне амерыканскі транспартны карабель «Вінстон Салем». Там знайшлі нарэшце дах над галавою,цяпло, адпачынак і свежую яду.

Праз нейкі час прыплыў савецкі кітабойны карабель. Дзякуючы гэтаму незадоўга знайшліся ў Архангельску.

* * *

Аказалася, матросы "Вашынгтона" мелі рацыю: карабель «Алапене» загінуў бясследна, ніхто не выратаваўся. (а-ся)



ВЕСТКІ БССР

# Школа агароднікаў

Мінская сельскагаспадарчая школа па падрыхтоўцы брыгадзіраў - агароднікаў за 17 год выпусціла звыш 1200 спецыялістаў. Цяпер тут займаецца 120 калгасных і саўгасных агароднікаў — практыкаў з розных вобласцей рэспублікі.



На здымку: лабараторныя заняткі па батаніцы.

## ЦІ ВЕДАЕЦЕ ВЫ...

...што ў Амерыцы жыве смоўж, у роце якога налічваецца 14.175 зубоў.

## УВАГА: ідзе падводны запіс!

Галасы рыб і марскіх жывёлін у натуральных умовах запісалі савецкія вучоныя з дапамогай партатыўнага айчыннага апарата. Па сваіх размерах гэты апарат нагадвае невялікі рэпарцёрскі магнітафон.

Партатыўным апаратам, пабудаваным савецкімі спецыялістамі, можна карыстацца з любой лодкі ў моры ці з масткоў над возерам. Вучоныя даследвалі буйнейшыя вадаёмы еўрапейскай часткі Савецкага Саюза, паўночныя і паўднёвыя моры. Ім удалося запісаць галасы падводных жыхароў. Устаноўлена, што бялуга валодае чатырма відамі гукаў і мае своеасаблівую лакацыйную «ўстаноўку».

Спецыялісты лічаць, што такая партатыўная апаратура можа быць выкарыстана для прамысловых мэт, для распрацоўкі сістэмы прыцягнення або адпалохвання рыб і марскіх жывёлін.



Праследванне неграў у ЗША не прыносіць гонару ані славы амерыканскай нацыі. Гэта пануры водбліск расісцкіх традыцый з даўніх часоў, калі гандаль афрыканцамі на амерыканскім узбярэжжы лічыўся даходным інтарэсам. (ся)

Не вонкавы выгляд павінен упрыгожваць, трэба быць прыгожым у духоўных пачынаннях.

Фалес (каля 624—547 да н.э.) — старажытнагрэцкі філосаф - матэрыяліст.

## Шыць не шыць, а паглядзець добра

Польская мода на карнавал. Пашыць мо' і не паспееце, але паглядзець прыемна... на суконкі і на мадэлек. А да таго, карнавал будзе ж яшчэ не раз.

# ХІРУРГ ВЯРТАЕ МОВУ

Больш як дзвесце хворых прааперыравала за апошнія гады маскоўскі ўрач-атаарынголаг Антаніна Юніна.

— Вось мае хворыя. — Юніна расклала перада мной некалькі дзесяткаў фатаграфій. Ва ўсіх невялікая ранка на горле. — Такімі яны паступаюць да нас.

Неасцярожны рух, ускладненне пасля хваробы ці няшчасны выпадак выклікаюць паражэнне кволых тканак горла. У выніку — невялікая адтуліна на пярэдняй сценцы гартані. У яе звычайна ўстаўляюць трубку з металу ці пластмасы. Па ёй паветра паступае ў лёгкія. Але пацярпеўшыя не могуць пры гэтым нармальна размаўляць. Каб вымавіць некалькі слоў, яны на імгненне заціскаюць пальцамі адтуліну трубкі і літаральна «выдыхаюць» некалькі адрывістых скажоных гукаў. З цягам часу трацiцца і гэтая нязначная здольнасць. Траўміраваныя тканкі гартані паступова зрастаюцца, поўнасцю закрываючы дыхальны шлях.

Некалькі гадоў назад Антаніна Юніна вырашыла замяняць пашкоджаныя тканкі і храсткі гартані, каб цалкам аднавіць траўміраваныя часткі дыхальнага русла. Для гэтага яна выкарыстала рэбры раптоўна памёршых людзей, апрацаваныя адпаведным чынам і кансерваваныя.

Аперацыю праводзяць пад агульным наркозам. «Запасныя часткі» гартані размякчаюць фізіялагічным растворам. Хірург надае ім неабходную форму. Тут усё залежыць ад яго майстэрства: дакладныя размеры, ледзь улоўныя закругленні і выгібы выконваюцца на вока. Змадэляваны храсток, праніzаны шматлікімі дзірачкамі, Юніна ўстаўляе на месца пашкоджанага і замацоўвае. Праз два-тры тыдні суседнія тканкі зрастаюцца з ім, пранікаючы ў мініяцюрныя адтуліны. Храсток становіцца часткай адроджанай да жыцця чалавечай гартані.

Хворы пачынае нармальна дыхаць і гаварыць.

Іван Максімаў, які прыехаў у Маскву з Горкага, маўчаў сорак гадоў. У дзяцінстве пасля дыфтэрыту ў яго нарушылася гартань, і толькі надаўна майстэрства хірурга вярнула яму мову і нармальнае дыханне.

У цяжкай рабоце Антаніны Юнінай няма непахісных правіл: кожная аперацыя — беспрэцэдэнтны і адзіны шлях, знойдзены толькі для данага хворага. Цяпер Юніна праводзіць першыя эксперыменты з фасцыяй — злучальнай тканкай, што пакрывае мышцу сцягна. Тканка замяняе пашкоджаную слізістую абалонку гартані. Першыя доследы — першыя ўдачы. Фасцыя цудоўна дубліруе кволую тканку чалавечай гартані.

Для аперацыі на горле выкарыстоўваюцца і пластмасы. Яны нават больш перспектыўныя для такіх аперацый.

Уладзімір Друянаў

